№ 42(145)
12 – 18 кастрычніка 2000
Заснавана ў ліпені 1997 г.

http://kapp.nsys.by

Заснавальнік і галоўны рэдактар **Віктар ІВАШКЕВІЧ**

# рабочы

ШТОТЫДНЁВАЯ МАСАВА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА



АД СЕРАДЫ ДА СЕРАДЫ

### ВЫБАРЫ

Дзярждэпартамент ЗША ў сваім прэс-рэлізе запэўніў, што Амерыка не прызнае вынікаў парламенцкіх выбараў у Беларусі і не будзе накіроўваць на іх сваіх назіральнікаў. Афіцыйны Вашынгтон "не прызнае вынікі гэтых выбараў, якія не з'яўляюцца дэмакратычнымі", — гаворыцца ў дакуменце.

### АМНІСТЫЯ

5 кастрычніка з Аршанскай калоніі выйшаў на волю па амністыі былы міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Васіль Лявонаў.

### ЗВАЛЬНЕННЕ

Дырэктар гомельскага завода хімічнага мелу Мікалай Бурцаў стаў першым кіраўніком прадпрыемства ў Гомелі, з якім скасаваны кантракт з-за нявыплаты заработнай платы.

### БЮДЖЭТ

На мінулым тыдні парламент прыняў у першым чытанні галоўны фінансавы дакумент краіны. Вывучэнне і прынящце бюджэту прайшло ў рэкордны тэрмін: на 700 аркушаў тэксту ў дэпутатаў пайшоў усяго адзін дзень! Дэфіцыт бюджэту складае 247 млн. долараў.

### ВАЛЮТА

Паводле данных БелаПАН, Беларусь працягвае займаць першае месца сярод краін былога СССР па абясцэньванню кошту нацыянальнай валюты да долара ЗША.

### ЦЭНЫ

У Беларусі зноў выраслі цэны на белую гарэлку. Гарэлка ў «вінтавых» бутэльках падаражэла на 4%, у звычайных – на 6%. Цяпер у рознічным продажы паўлітровая бутэлька гарэлкі «Крышталь-100» каштуе 1.413 рублёў (раней – 1.361), «Крышталь-люкс» і «Белая Русь» – 1.459 (1.405).

### ЗДАРОЎЕ

У Беларусі 174 тысячы чалавек стаіць на дыспансерным уліку хворых на алкагалізм. Спажыванне ж алкагольных напояў на душу насельніцтва складае 11 літраў, тады як, паводле даных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, мяжа, вышэй якой пачынаецца выраджэнне нацыі, вызначаецца 8 літрамі. Ва Украіне гэтая лічба роўная 4,5 літра.

### СВЯТА

На мінулым тыдні Давыд-Гарадок святкаваў сваё 900-годдзе.

# Эстафета СВАБОДЫ

*Браткі-беларусы! Ці вы пад гіпнозам,*
*Ці мо, даражэнькія, страцілі розум?*
*Крычу, каб прачнуліся, добра зірнулі,*
*Каб вашае сэрца і розум кранулі*
*Хлусня, самадурства і хамства ўлады,*
*Яе марнатраўства, бяздушша і здрада!*
*Крычу, што ёсць моцы, мае землякі,*
*Пры гэтым сціскаю свае кулакі.*
*Даволі ўжо, братка, даволі трываць,*
*Год дзвесце, як мовы маёй не чуваць.*
*Хачу, каб пявучая мова Купалы*
*Паўсюдна па нашай Радзіме гучала.*
*Шырокім праспектам ішоў каб Скарына*
*Па нашай цудоўнай азёрнай краіне.*
*Ой, доўга, як доўга за нос нас вадзілі,*
*Няпраўдай атрутнай, як зеллем паілі.*
*Хлусня на вушах, як тае завушніцы*
*Вісіць падарункам чынуш са сталіцы.*
*А наш узурпатар, былы прэзідэнт?*
*Разумных людзей ён зняславіў ушчэнт:*
*Хто ў турмах сядзіць, хто сышоў у магілу,*
*Згубіўшы сваю маладзецкую сілу.*
*Мо, хопіць, браточкі, сядзець, склаўшы рукі,*
*Ці вам не шкада вашых дзетак і ўнукаў?*
*Уставайце, яднайцеся, голас крычыце,*
*Прашу, заклікаю, браткі, не маўчыце!*
*Мы – нацыя, людзі, мы – дзеці Еўропы,*
*Нашчадкі ліцвінаў мы, а не халопы.*
*Мы годныя добрай, разумнай улады.*
*Тапчыце нагамі бязбожнага гада.*

Яўгенія КАЗЛОВА, 51 год.
г. Орша




8 кастрычніка ў 22 гарадах Беларусі аб'яднаная апазіцыя правяла масавыя шэсці і мітынгі пад агульным лозунгам "Супраць выбарчага фарсу – за дэмакратычныя выбары". Дзесяткі тысяч людзей, якія выйшлі на вуліцы сваіх гарадоў, прызвалі суайчыннікаў не падыгрываць уладзе 15 кастрычніка і падтрымаць кампанію "Байкот-2000". Сёння вядома кожнаму, што Палата прадстаўнікоў не мае ніякіх рэальных паўнамоцтваў, Выбарчы кодэкс не гарантуе празрыстасць і дэмакратычнасць выбараў, улада не жадае прадастаўляць роўныя ўмовы ўсім кандыдатам, не дапускае апазіцыю да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. А напярэдадні ж прэзідэнцкія гонкі!

Нагадаем, што першым у эстафеце 1 кастрычніка стартаваў Мінск. Рэгіёны не падкачалі.

*(Працяг – на стар. 2.)*

## аб'яднаная апазіцыя запрашае на акцыю

# СУПРАЦЬ ДЫКТАТУРЫ!

# СУПРАЦЬ ВЫБАРЧАГА ФАРСУ!

## 14 кастрычніка, субота, 15.00, Мінск, Акадэмія навук




### *Как изменится в ближайшие 2-3 месяца экономическое положение вашего предприятия?*

На такой вопрос специалистов Министерства экономики Беларуси четыре раза в год отвечают руководители 196 предприятий нашей страны.

Директора, как известно, люди серьезные, слов на ветер не бросают. По их оценке перспектив собственных производств, можно догадаться, как будут выглядеть люди завтрашнего дня (см. диаграмму).

Источник: Научно-исследовательский экономический институт Министерства экономики Беларуси.

*У 22 гарадах краіны прайшлі масавыя акцыі за байкот "выбараў".*

# 8 КАСТРЫЧНІКА: МАРШ

## ГЕАГРАФІЯ ПАДЗЕЙ: НАС ШМАТ НА КОЖНЫМ КІЛАМЕТРЫ

**Чамусьці прынята лічыць, што цэнтрам апазіцыйнай дзейнасці з`яўляецца Мінск. Падзеі 8 красавіка абвяргаюць такое меркаванне. У гэты дзень у 22 гарадах Беларусі аб`яднаная апазіцыя правяла акцыі ў рамках кампаніі "Байкот-2000". У некаторых месцах падобныя падзеі праходзілі ўпершыню за апошнія шэсць гадоў. У рэгёны для ўдзелу ў мітынгах, шэсцях, сустрэчах з выбаршчыкамі выязджалі вядомыя беларускія палітыкі. Туды ж скіраваліся журналісты і назіральнікі ад АБСЕ.**

**ГРОДНА**

Паколькі Марш Свабоды Гродзенскі гарвыканкам забараніў, людзей сабралі на плошчы Леніна. Прыйшло каля 2000 чалавек. Удзельнікі мітынгу прынялі рэзалюцыю, у якой зазначылі, што выбары – несвабодныя і несправядлівыя. Гродзенцы, якія прыйшлі на мітынг, адмовіліся ад удзелу ў іх і заклікалі іншых выбаршчыкаў зрабіць тое ж.

Пасля заканчэння мітынгу прагучаў заклік занесці нацыянальныя і еўрапейскія сцягі да сядзібы БНФ. Такім чынам, атрымалася, што шэсце па гарадскіх вуліцах усё ж адбылося.

**СЛОНІМ**

Тут быў разгорнуты пікет, удзельнікі якога адказалі на пытанні больш за тысячы чалавек. На пікеце раздавалі газету «Рабочы" і ўлёткі з заклікамі да байкоту. Актывісты збіралі подпісы за чатыры ўмовы АБСЕ, вёўся запіс у сябры БНФ.

**ЛІДА**

Спачатку ў Лідзе мітынг быў забаронены. Але ў рэшце рэшт намеснік старшыні гарвыканкама У. Малец прапанаваў сп. Корбану, які падаваў заяўку, правесці мітынг на лідскім Кургане. Пасля дадатковых перамоў заяўнік і гарвыканкам прыйшлі да згоды: збірацца на мітынг людзі будуць на плошчы Леніна, а затым пройдуць да Кургана.

Мітынг вёў старшыня гарадской арганізацыі БНФ Станіслаў Суднік. Акцыя прайшла пад лозунгамі: «Не – выбарчаму фарсу!»; «Байкот - 2000»; «Перамаглі сербы – пераможам і мы». Аднак лозунг «Не -- выбарчаму фарсу!» міліцыянты прымусілі ўбраць.

У якасці назіральнікаў у горад прыехалі прадстаўнікі АБСЕ; былі і журналісты.

Па скканчэнні пікету міліцыя запрасіла да сябе старшыню гарадской арганізацыі БНФ Станіслава Судніка, старшыню гарадской арганізацыі БСДП(НГ) Алеся Судара, сябра АГП Віктара Аўгусціна, у якога на штанах была налепка «Все на выборы», а таксама Паўла Анацку за візуальную агітацыю супраціва, паколькі ён трымаў лозунг «Не – выбарчаму фарсу!». Праўда, потым, так і не склаўшы пратакола, адпусцілі.

**МАГІЛЁЎ**

У суботу 7 кастрычніка сябры БНФ, узяўшы плакаты «Байкот фальшывым выбарам», «Выбары ў палату -- падман народа», прайшліся па цэнтры горада. У выніку былі затрыманы Сяржук Гіркін і Андрэй Качуроўскі. У іх канфіскавалі плакаты, а дакументы пра іх «правапарушэнні» паабяцалі даслаць у адміністрацыйныя камісіі па месцы жыхарства.

8 кастрычніка міліцыянты блакіравалі штаб-кватэру БНФ, абшуквалі людзей, што выходзілі адтуль. Увесь горад быў ачэплены. Але, тым не менш, на акцыю, якая афіцыйна лічылася сустрэчай з выбаршчыкамі, прыйшло да 600 чалавек.

Былі спробы арыштаваць арганізатара сустрэчы -- Віталя Макаранку. Пасля сустрэчы з выбарнікамі затрымалі Міколу Сісько, які нёс з мітынгу мегафон. У яго запісалі дадзеныя і паабяцалі выклікаць пазней.

**БАБРУЙСК**

З-за таго, што мітынг быў забаронены, у Бабруйску была арганізаваная сустрэча з выбаршчыкамі, на якую прыйшло 200 чалавек. Нікога не затрымалі, але старшыні гарадской арганізацыі БНФ «Адраджэньне» зрабілі папярэджанне за арганізацыю пікету.

**БРЭСТ**

Акцыя ў Брэсце сабрала 2000 чалавек. Магло быць і больш, калі б мясцовыя ўлады не знялі ў гэты дзень маршрут аўтобуса, які ішоў на месца збору.

На мітынгу выступалі Ю. Хадыка – намеснік старшыні БНФ, С. Шушкевіч – старшыня БСДГ, Р. Бакіевіч – старшыня гарадской арганізацыі БНФ, С. Бахун – старшыня брэсцкай арганізацыі Маладога Фронту і інш.

Удзельнікамі мітынгу былі прыняты 2 рэзалюцыі. У адной удзельнікі мітынгу заклікаюць брастаўчан выкарыстаць сваё канстытуцыйнае права – не ісці на выбары, не браць удзелу ў фарсе, які за народныя грошы ставіць нелегітымны «прэзідэнт», каб захаваць сваю нелегітымную ўладу. У другой рэзалюцыі віталася перамога дэмакратычных сіл у Сербіі.

**БАРАНАВІЧЫ**

Каля 500 чалавек прыйшлі на баранавіцкі мітынг, на якім выступалі намеснік старшыні БНФ В. Івашкевіч і іншыя палітыкі з Мінска, а таксама мясцовыя лідэры апазіцыі. Пасля заканчэння мітынгу больш за 100 чалавек рушылі ў цэнтр горада.

**ПІНСК**

На мітынгу прысутнічала 300 чалавек. Акцыя прайшла на незапланаваным месцы, бо на тым месцы, пра якое дамаўляліся з уладамі, не было магчымасці падключыць апаратуру - чамусьці адсутнічала электрычнасць.

**ЖОДЗІНА**

Тут мелі месца шматлікія правакацыі, пра якія – ніжэй. Тым не менш, нягледзячы на ўсе спробы зрыву, акцыя ўсё ж такі адбылася, а вынікі яе арганізатары лічаць неблагімі. Людзям раздаваліся газеты, прысвечаныя акцыі «Байкот-2000», актыўна ішоў збор подпісаў за чатыры ўмовы АБСЕ. Моладзь запісвалася ў ТБМ.

**БАРЫСАЎ**

Акцыя ў Барысаве сабрала каля 250 чалавек. У горад прыехалі таксама тры назіральнікі з АБСЕ і карэспандэнты з «Народнай волі», «Рабочага», радыё «Свабода», журналісты са Швецыі.

**МАЛАДЗЕЧНА**

У Маладзечне былі разгорнуты два пікеты. Актывісты распаўсюджвалі бюлетэні «Навіны БНФ» і «Права на волю». Затрыманняў не было.

**СЛУЦК**

На сустрэчу з выбаршчыкамі сабралася каля 120 чалавек. Выступалі прадстаўнікі БНФ А. Грыцкевіч і В.Баранаў, мясцовыя актывісты, што дапамагло сустэчы паратварыцца ў мітынг. На акцыі раздавалі ўлёткі, збіралі подпісы за 4 умовы АБСЕ. «Прысутнічала» шмат міліцыянтаў, намеснік старшыні гарвыканкама па сувязях з грамадскасцю.

**ВІЦЕБСК**

У Віцебску акцыя пачалася з шэсця, у якім удзельнічала больш за 250 чалавек. Калі пачаўся мітынг, гэтая лічба павялічылася да 500. Колькасць затрыманых – сем чалавек.

**НАВАПОЛАЦК**

На акцыю «Байкот-2000» у Навапалацк прыйшло больш за 100 чалавек.

**ОРША**

На забаронены ўладамі Марш Свабоды у Оршы прыйшло каля 100 чалавек. Шэсце працягвалася 15 хвілін, а затым пачаўся мітынг, на якім выступалі прадстаўнікі Свабодных прафсаюзаў і Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ.

**ГОМЕЛЬ**

На акцыю пратэсту ў рамках «Байкоту-2000» прыйшло больш за 600 чалавек. Пра сваё стаўленне да выбараў расказалі Анатоль Лябедзька і Алесь Бяляцкі.

**МАЗЫР**

На сустрэчы з выбаршчыкамі прысутнічалі 30 чалавек. Было шмат міліцыі, якая некалькі разоў спрабавала спыніць сустрэчу складсці пратаколы на ўдзельнікаў.

**РЭЧЫЦА**

250 чалавек актыўна падтрымалі акцыю «Байкот-2000». На мітынгу выступілі Станіслаў Багданкевіч і іншыя палітыкі.

**СВЕТЛАГОРСК**

Мітынг быў дазволены толькі за 2 дні да заяўленай даты. Прысутнічалі каля 200 чалавек.

**ЖЛОБІН**

Некалькі дзясяткаў удзельнікаў прысутнічала на пікеце ў Жлобіне. Актывісты распаўсюджвалі газету «Рабочы» і «Навіны БНФ»,

**РАГАЧОЎ**

Сп. Лабковіча (БНФ) і сп. Альфера (ОГП), што ехалі на сустрэчу з выбаршчыкамі ў Рагачоў, затрымалі пры ўездзе ў горад і правялі «прафілактычную работу», нагадваючы пра адказнасць, якую нясуць тыя, хто ўдзельнічае ў забароненай акцыі. Калі мінчукі прыехалі, сустрэча з выбаршчыкамі ўжо пачалася, хаця міліцыя настойліва прапаноўвала ўдзельнікам (невядома па якіх прычынах) пайсці ў якое-небудзь памяшканне. Удзельнікі, каб не абвастраць сітуацыю, вымушаны былі скончыць акцыю, толькі распачаўшы.

**Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, лічым, што свабодныя і справядлівыя выбары – гэта шлях да дабрабыту і росквіту. Такія выбары – мясцовыя, парламенцкія, прэзідэнцкія, могуць адбыцца толькі пры выкананні ўмоў, падтрыманых АБСЕ – Арганізацыяй па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе:**

1. Спыненне праследу людзей па палітычных матывах, вызваленне палітычных вязняў, высвятленне лёсу зніклыўшых людзей, гарантыя свабоды шэсцяў і мітынгаў.
2. Ніхто, акрамя парламента, не можа прымаць законы, абавязковыя для выканання ўсімі, і ажыццяўляць кантроль за выкананнем дзяржаўнага бюджэту.
3. Палітычныя партыі і грамадскія рухі павінны мець гарантаваны бесцэнзурны доступ да дзяржаўных радыё і тэлебачання.
4. Выбарчыя камісіі павінны быць незалежнымі ад улады і складацца з прадстаўнікоў палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў.

| *Прозвішча* | *Імя, Імя па бацьку* | *Год нарадж.* | *Месца жыхарства* (вобласць, горад, вуліца, дом, кватэра) | *Подпіс* |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |
| | | | | |



**8 кастрычніка. Орша. Збор подпісаў пад 4 умовамі АБСЕ.**

## ПРОГРАММА ТВ — ПОНЕДЕЛЬНИК, 16 ОКТЯБРЯ

**БТ**
8.00 Резонанс.
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.25 Новости.
9.15 Здоровье. Тележурнал.
9.40 Детский экран. «Лето Эмильбека». «Не улетай, землянин». Короткометражные худ.фильмы.
10.35 Теленавигатор.
11.10, 19.50 «Все мои дети». Телесериал.
11.55 Музыка без границ. Музыкально-информационная программа.
12.25 «Великий лес». Док. фильм(ТО «Телефильм»).
13.15 Дневной сеанс. «Гадюка». Худ. фильм (к/ст. им.А.П.Довженко).
15.15 «Приключения Мюнхгаузена». Мультфильмы.
16.00 «Клемансо». Док.фильм (Международный Французский Канал).
17.15 Столица. Информационно-аналитическая программа.
17.45 Документальный экран. «Баллада о Свитязи»(ТО «Телефильм»).
18.10 Молодежный сериал «Сити».
19.15 Политические диалоги.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 Б.Ступка, А.Джигарханян, Т.Лаврова в четырехсерийном худ.фильме «К расследованию приступить» (к/с им.А.П.Довженко). 1-я серия.
22.55 Третий тайм.

**ОРТ**
14.00 Новости.
14.20 Мультсериал «Охотники за привидениями».
14.45 Звездный час.
15.15 ...До шестнадцати и старше.
15.55 «Вавилонская башня». Сериал.
17.00 Новости.
17.30 «ТУ-144: Последний полет». Спецрепортаж.
17.45 Жди меня.
18.30 Погода.
18.35 Сериал «Ускоренная помощь-2».
19.10 Сериал «Черная комната».
19.50 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 Сериал «X-files».
22.40 Взгляд.
23.30 Новости.
23.45 Сериал «Человек ниоткуда».

**РТР**
15.00 Мультфильмы.
15.25 «Простые истины». Сериал.
16.00 Вести.
16.30 «Кинескоп».
18.00 «История любви». Сериал.
19.00 Вести.
19.30.Подробности.
19.50 Сериал «Следствие ведут знатоки».
22.00 Вести.
22.30 После «Вестей».
22.40 Дежурная часть.
22.50 Сериал «Следствие ведут знатоки».
00.25 Прогноз погоды.

**НТВ**
05.00, 05.30, 05.45, 06.00, 06.30, 06.45, 07.00, 07.30 Сегодня утром.
05.15, 07.15 Спорт, погода.
05.20, 06.15 Криминал.
05.35, 06.50 Большие деньги.
05.50, 07.20 Впрок.
06.20, 07.45 Карданный вал.
06.35 Мультфильм.
07.55 Сериал «Охота на Золушку».
09.00 Сегодня.
09.25 Сериал «Любовь и тайны Сансет Бич».
11.00 Сегодня.
11.30 Вчера в «Итогах».
12.45 Куклы.
13.00 Сегодня.
13.35 «Итого».
14.00 Старый телевизор.
15.00 Сегодня.
15.30 Сериал «Элен и ребята».
16.35 Впрок.
16.45 Футбольный клуб.
17.40 Криминал.
18.00 Сегодня.
18.30 Герой дня.
18.55 Сериал «Улицы разбитых фонарей-II».
20.05 «Криминальная Россия».
20.35 «Груз-2000».
21.00 Сегодня.
21.40 Сериал «Скорая помощь».
22.40 Тушите свет.
23.00 Сегодня в полночь.
23.30 «Футбольный клуб».
00.05 «Антропология».

**КУЛЬТУРА**
07.05 Новости культуры.
07.20 После новостей.
07.40 «Я вас любил...» Худ.фильм.
09.05 Русский камерный балет «Москва».
09.45 Зарубежное документальное кино.
10.40 «Фортуната и Хасинта». Сериал.
11.30 Новости культуры.
11.40 «До свидания, мальчики!». Худ.фильм.
13.00 Венедикт Ерофеев.
13.30 Новости культуры.
13.45 «Ну, погоди!».
14.15 Романс... с Любовью Казарновской.
14.45 Гербы России.
15.00 Новости.
15.10 «Маленький бродяга». Сериал.
15.35 Шалом.
16.15 «Вижу цель».
16.40 «Фортуната и Хасинта». Сериал.
17.30 Новости культуры.
17.40 «Василиса Мелентьева». Спектакль. Часть 1-я.
19.05 Вечерняя сказка.
19.15 «Рекс». Мультсериал.
19.30 Новости культуры.
19.50 «Василиса Мелентьева». Спектакль. Часть 2-я.
21.20 После новостей.
21.40 Сценограмма.
22.05 «Из истории русского портрета XVIII века. Рокотов. Левицкий». Док.фильм.
22.25 Музыка во дворцах.
23.00 Новости культуры.

**ТВ6**
06.05 Дорожный патруль.
06.15 День за днем.
08.00 Новости.
08.10 Боевик «Законник».
10.00 «Все в сад!».
10.30 «Про любовь».
11.05 Катастрофы недели.
12.00 День за днем.
13.30 «Своя игра».
14.00 Новости.
14.15 Телемагазин в Минске.
14.30 Сериал «Богатые тоже плачут».
15.25 «Отдохнем».
15.35 Григорий Грабовой. «Формула здоровья».
15.40 Телемагазин в Минске.
15.55 Телемагазин в Минске.
17.05 Сериал «Дежурная аптека III».
17.40 Дорожный патруль.
17.55 Театральный понедельник.
18.30 «Петерс поп-шоу».
19.00 Новости дня.
19.30 «Вы - очевидец».
20.25 Сериал «Западное крыло».
21.25 Дорожный патруль.
21.45 Новости.
22.05 Сериал «Алло, Алло!».
22.40 «Аллё, народ!».
23.00 ДИСК-канал.
23.30 Дорожный патруль.






# РЭГІЁНАЎ

## ГЕАГРАФІЯ ПАКАРАННЯЎ І ПРАВАКАЦЫЙ: НАС ПАЛОХАЮЦЬ, А МЫ НЕ ПАЛОХАЕМСЯ

**САЛІГОРСК**

Сустрэча з выбаршчыкамі праходзіла ў Салігорску на кірмашы. Там і былі затрыманы сп. Баранаў і сп. Голасаў -- толькі за тое, што размаўлялі з людзьмі і раздавалі ўлёткі.

**БРЭСТ**

Пры распаўсюджванні газеты "Рабочы" і першага нумара грамадска-палітычнай газеты "Наш выбар" (Брэсцкай абласной рады БНФ), а таксама запрашэнняў на акцыю міліцыяй быў затрыманы Рыгор Варвашэвіч. Яго даставілі ў РАУС Маскоўскага раёна г.Брэста. Р. Варвашэвіч патрабаваў дазволу патэлефанаваць у праваахоўны цэнтр "Вясна". У рэшце рэшт пратакол не быў складзены, а ў 15.35 маёр Журан выказаў затрыманаму Р. Варвашэвічу свае прабачэнні і адпусціў. Супрацоўнікі міліцыі вярнулі ўсе газеты.

**ВІЦЕБСК**

Пасля шэсця і мітынгу тут былі затрыманы сем чалавек: Аляксандр Прахарэнка, Марат Волкаў, Сяргей Смірноў, Андрэй Саўчанка, Сяргей Доўгі, Сяргей Васенка. Затрыманых даставілі ў РУУС Кастрычніцкага раёна г. Віцебска, дзе пратрымалі каля гадзіны, склалі пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні. Павесткі ў суд павінны прыйсці на хатнія адрасы.

**ГРОДНА**

На патэнцыяльных удзельнікаў акцыі аказваўся моцны псіхалагічны націск – па мясцовым тэлебачанні папярэджвалі, што акцыя забаронена, запалохвалі магчымымі карамі. 7 кастрычніка за распаўсюджванне запрашэнняў на мітынг быў затрыманы Мікалай Івашын.

**БАРАНАВІЧЫ**

Увечары ў 21.00 да аднаго з актыўных удзельнікаў акцый – Міхаіла Барысевіча прыйшлі супрацоўнікі крымінальнага вышуку. М. Барысевіч адчыніў ім дзверы і сказаў: "Я нічога не ўкраў. Калі я вам патрэбны, дасылайце павестку". Варта адзначыць, што М. Барысевіч падчас акцыі збіраў подпісы за "свабодныя і дэмакратычныя выбары" (выкананне 4 умоў АБСЕ).

**ЖОДЗІНА**

На мясцовую арганізацыю БНФ "Адраджэньне" напярэдадні акцыі быў здзейснены налёт – выбіты шыбы, зламаны замок. Усю ноч старшыні жодзінскай суполкі БНФ тэлефанавалі невядомыя з бруднай лаянкай і пагрозамі. Сам мітынг праходзіў пад наглядам вялікай колькасці супрацоўнікаў міліцыі і КГБ. На плошчы знаходзіліся брытагаловыя фашысты з РНЕ, якія спрабавалі кідаць у выступаючых камяні. Праз гадзіну яны пачалі дэманстратыўна паліць улёткі, падпальваць плакаты. Фатограф, які спрабаваў зняць гэта, быў збіты брытагаловымі. Як адзначыў Аляксей Лапіцкі, "мы ўпершыню назіралі такую актыўнасць брытагаловых у нашам горадзе, яны дзейнічалі пры маўклівай згодзе ўладаў. Рукамі фашыстаў улады аказвалі ціск на тых, хто заклікаў да байкоту выбараў".

**БАРЫСАЎ**

Тут акцыю таксама спрабавалі сарваць мясцовыя "РНЕшнікі".

**ДАРЭЧЫ**

6 кастрычніка ў Першамайскім раённым судзе г. Мінска было вынесена рашэнне па адміністрацыйнай справе аднаго с кіраўнікоў АГП Уладзіміра Раманоўскага. Яго абвінавачвалі ў несанкцыянаваным пікетаванні, якое быццам бы адбылося 25 верасня, калі У. Раманоўскі ля станцыі метро "Усход" трымаў плакат "Сустрэчы з выбаршчыкамі". Тады У. Раманоўскаму была выдадзена павестка ў аддзел міліцыі Першамайскага раёна. Там на У. Раманоўскага быў складзены пратакол адміністрацыйнага правапарушэння па арт. 167.1 ч.2 (арганізацыя несанкцыянаванага пікету). Суд праходзіў 5-6 кастрычніка. Суддзя С.Несінаў, нягледзячы на довады У. Раманоўскага, што ён мае права падчас выбарчай кампаніі агітаваць як "за" так і "супраць" любага кандыдата (згодна з арт. 45 Выбарчага кодэкса РБ), прызнаў яго вінаватым у арганізацыі несанкцыянаванага пікету і прыцягнуў да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе 10 сутак арышту. У зале суда У. Раманоўскі быў узяты пад варту і накіраваны адбываць пакаранне ў спецпрыёмнік-размеркавальнік. Гэта першы адміністрацыйны арышт за ўдзел у кампаніі "Байкот-2000".

*Публікацыя падрыхтавана па матэрыялах прэс-цэнтра БНФ "Адраджэньне" і праваахоўнага цэнтра "Вясна".*

# Свабодны прафсаюз ведае, што трэба рабіць 15 кастрычніка



**Яшчэ летам кіраўнік нашай дзяржавы ў сваіх пасланнях Генеральнаму сакратару Савета Еўрапейскага саюза Хаўеру Саланэ ды старшыні АБСЕ, міністру замежных спраў Аўстрыі Бенітэ Ферэра-Вальднер заявіў, што ён гарантуе наяўнасць перыяду даверу на час падрыхтоўкі і правядзення парламенцкіх выбараў. Акрамя таго, кіраўніцтва краіны ўзяло на сябе абавязкі не пагаршаць умоў дзейнасці свабодных прафсаюзаў.**

**Прэс-канферэнцыя старшыні Свабоднага прафсаюза Беларускага (СПБ) Генадзя БЫКАВА, якую ён правёў 5 кастрычніка ў Мінску, сведчыць аб тым, што словы прэзідэнта краіны разыходзяцца са справамі. Вось некаторыя факты.**

## АДСУТНАСЦЬ ПЕРАРЭГІСТРАЦЫІ

Нягледзячы на тое, што рэспубліканская структура СПБ яшчэ ў жніўні мінулага года атрымала пасведчанне Міністэрства юстыцыі аб перарэгістрацыі, да гэтага часу большасць першасных і рэгіянальных суполак Свабоднага прафсаюза Беларускага мясцовыя органы ўлады так і не перарэгістравалі. Прычына – адсутнасць у прафсаюзных структурах спраўкі аб юрыдычным адрасе, якую павінен прадстаўляць кіраўнік той установы ці таго прадпрыемства, дзе створана прафсаюзная арганізацыя. Інакш кажучы, права прымаць рашэнне аб тым, быць ці не быць прафсаюзу на прадпрыемстве, належыць дырэктару. Залішне казаць, наколькі такі парадак выгадны кіраўнікам установ. Трэба зазначыць, што гэта — парушэнне міжнародных норм. І не выпадкова міжнародныя прафсаюзы зараз актыўна дапамагаюць сваім беларускім калегам абараняць прафсаюзную дзейнасць ад умяшальніцтва дзяржавы.

Сёння сітуацыя з перарэгістрацыяй даведзена наогул да абсурду. Так, кіраўнікі магілёўскага аўтазавода, аршанскага трактарарамонтнага і льнокамбіната, трактарарамонтнага барысаўскага "Аўтагідраўзмацняльніка" зрабілі зусім недапушчальныя крокі: спачатку "прапісалі" першасныя арганізацыі СПБ на сваіх прадпрыемствах, а праз месяц-другі "перадумалі" і свае спраўкі аб прадастаўленні юрыдычнага адраса адазвалі. Так свабодныя прафсаюзы былі пазбаўлены права на існаванне на гэтых прадпрыемствах. Старшыня СПБ упэўнены, што такая "ініцыятыва" навязана дырэктарам уладамі, якія мараць ушчэнт разграміць дэмакратычныя прафесійныя арганізацыі. Гэта ўжо чацвёртая такая спроба за 10 гадоў існавання незалежнай Беларусі. Першыя тры, відавочна, былі няўдалыя. Генадзь Быкаў упэўнены, што і зараз у чыноўнікаў нічога не атрымаецца.



**Свабодны прафсаюз апячатаны...**

## ФОНД "САЛІДАРНАСЦЬ"

Для падтрымкі тых, хто церпіць ад самавольства адміністрацыі, Свабодны прафсаюз трымае спецыяльны фонд "Салідарнасць". Гэты фонд напаўняецца з прафсаюзных узносаў сяброў арганізацыі. Адпаведна і карыстаюцца грашовымі сродкамі менавіта тыя прадстаўнікі прафсаюза, якія папалі ў цяжкае становішча, але да гэтага своечасова і рэгулярна пералічвалі грошы на рахунак "Салідарнасці".

## ДЭГРАДАЦЫЯ ЗАКАНАДАЎСТВА

Параўнайце частку 1 артыкула з былога і новага закона "Аб прафсаюзах".

У мінулым вызначалася, што *"умяшальніцтва ў законную дзейнасць прафсаюзаў, якое можа абмяжоўваць правы прафсаюзаў ці перашкодзіць іх ажыццяўленню, забараняецца"*.

Зараз жа запісана: *"Дзейнасць прафесійных саюзаў можа быць абмежавана ў выпадках, якія прадугледжаны заканадаўствам, заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь у інтарэсах нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку ці забеспячэння правоў свабод іншых асоб".*

На практыцы гэта можа выглядаць так. Па вуліцы ідзе прафсаюзная дэманстрацыя. Якая-небудзь бабуля пасля гэтага піша скаргу, што дэманстранты ў калоне ішлі доўга, і яна спазнілася ў паліклініку. Атрымліваецца, правы асобы парушаны, можна адразу ўводзіць абмежаванні.

## НОВЫ СЦЭНАРЫЙ ДЗЯРЖАВЫ

На прэс-канферэнцыі высветлілася нечаканая рэч: нехта ўжо звяртаўся ў Міністэрства юстыцыі з намерам стварыць новы Беларускі свабодны прафсаюз. Генадзь Быкаў убачыў у гэтым факце намер дзяржавы стварыць пад назвай "свабодных" "кішэнныя" прафсаюзы, каб з цягам часу менавіта ўказваючы на іх, дэманстраваць міжнароднай супольнасці, што ў нашай краіне дзяржава і Свабодны прафсаюз сябруюць.

**Падрыхтавала Ірына ДУБОВІК.**

## ПРАФСАЮЗНАЕ РАШЭННЕ

**3 кастрычніка, напярэдадні прэс-канферэнцыі, прэзідыум Свабоднага прафсаюза Беларускага разгледзеў усе факты парушэнняў правоў прафсаюзаў у Беларусі. Ён зазначыў, што ўлады тым самым пазбавілі СПБ законнага права прыняць удзел у парламенцкіх выбарах. Таму прэзідыум СПБ рэкамендуе сваім сябрам:**

**1. Адмовіцца ад удзелу ў выбарах у Палату прадстаўнікоў 15 кастрычніка 2000 года. Прыняць актыўны ўдзел толькі ў кантролі за выбарамі.**

**2. Звярнуцца да палітычных партый і незалежных кандыдатаў з заклікам – адмовіцца ад удзелу ў выбарах і сканцэнтраваць свае намаганні на падрыхтоўцы да прэзідэнцкіх выбараў 2001 года.**

**Акрамя таго, СПБ звярнуўся ў Міжнародную Канфедэрацыю свабодных прафсаюзаў (МКСП) за салідарнай падтрымкай аб непрызнанні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага схода Беларусі, таму што ўмовы правядзення парламенцкіх выбараў не адпавядаюць міжнародным нормам.**

## ПРОГРАММА ТВ — ВТОРНИК, 17 ОКТЯБРЯ

**БТ**

8.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.55 Новости.
8.10 Политические диалоги.
8.40 Потребительская корзина.
9.15 Мультфильм «Телетун». 7-я серия.
9.30 Ток-шоу «Это - XXI».
10.20 «В ожидании». Худ. фильм.
11.15, 19.50 «Все мои дети». Телесериал.
12.00 Цикл «Древо жизни».
12.25 Третий тайм.
13.15 «Жениться - не журиться». Спектакль.
14.10 Туробъектив. Путешествия, встречи, отдых.
14.30 «Встречи на осеннем рубеже». Док. фильм.
15.15 Мультфильмы.
15.45 «5 х 5». Информационно- развлекательная программа для старшеклассников.
16.15 «Продавец мечты». Музыкальный фильм.
17.15 «Дикие ясли». Док.фильм
18.15 Молодежный сериал «Сити».
19.20 «Личности XX столетия». Док. сериал «Сокровенные люди»(Россия).
19.35 Фильмы братьев Люмьер 26 - 30 серии.
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 «К расследованию приступить». Худ.фильм. 2-я серия.
22.55 «Роза красная моя». Музыкальная программа.

**ОРТ**

08.00 Новости.
08.20 «Вавилонская башня». Сериал.
10.25 Сериал «Ускоренная помощь-2».
11.00 Новости.
13.30 Программа «Вместе».
14.00 Новости.
14.20 Мультсериал «Охотники за привидениями».
14.45 Царь горы.
15.15 ...До шестнадцати и старше.
15.55 «Вавилонская башня». Сериал.
17.00 Новости.
17.25 Сериал «Дикие звезды Голливуда».
17.55 Погода.
18.00 Как это было. «Восстание в Каунасе. 1972 год».
18.40 Сериал «Убойная сила: Умирать подано».
19.50 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 Комедия «Ключи от неба».
22.35 Программа «Цивилизация».
23.10 Новости.
23.25 Сериал «Майк Хаммер: Имидж - ничто».

**РТР**

08.00 Вести.
08.15 Черным по белому.
08.20 Дежурная часть.
08.35 «Пес Динки». Мультсериал.
09.00 «Мануэла». Сериал.
10.00 Вести.
10.30 «Санта-Барбара». Сериал.
16.00 Вести.
16.30 Мелодрама «Секреты».
18.00 «История любви». Сериал.
19.00 Вести.
19.30 Подробности.
19.50 Комедия «Третий не лишний».
21.20 Авторская программа Елены Масюк.
22.00 Вести.
22.30 После «Вестей».
22.40 Дежурная часть.
22.50 Мужчина и женщина. Анатолий Приставкин. Часть 2-я.
23.45 Остросюжетный фильм «Искушение».
01.10 Прогноз погоды.

**НТВ**

05.00, 05.30, 05.45, 06.00, 06.30, 06.45, 07.00, 07.30 Сегодня утром.
05.15, 07.15 Спорт, погода.
05.20, 06.15 Криминал.
05.35, 06.50 Большие деньги.
05.50, 07.20 Впрок.
06.20, 07.45 Карданный вал.
06.35 Мультфильм.
07.55 Сериал «Улицы разбитых фонарей-II».
09.00 Сегодня.
09.20 Сериал «Скорая помощь».
10.10 Сериал «Любовь и тайны Сансет Бич».
11.00 Сегодня.
11.25 Фильм «Гонщики».
13.00 Сегодня.
13.30 «Один день».
14.00 Старый телевизор.
15.00 Сегодня.
15.30 Сериал «Элен и ребята».
16.35 Впрок.
16.45 Сериал «Полицейская академия».
17.40 Криминал.
18.00 Сегодня.
18.30 Герой дня.
18.55 Сериал «Улицы разбитых фонарей-II».
20.05 Суд идет.
21.00 Сегодня.
21.35 Футбол. Лига чемпионов. «Спортинг» (Лиссабон) - «Спартак» (Москва).
23.50 Сегодня в полночь.
00.20 Дневник Лиги чемпионов по футболу.

**КУЛЬТУРА**

07.05 Новости культуры.
07.20 После новостей.
07.40 «Осень». Худ.фильм.
09.05 Светлана.
09.35 «Чего не хватает Донгузу?» Док.фильм.
10.30 «Фортуната и Хасинта». Сериал.
11.30 Новости культуры.
11.40 «Наш дом». Худ.фильм.
13.15 Поклонникам Терпсихоры.
13.30 Новости культуры.
13.45 «Ну, погоди!».
14.15 Симф. поэма «Смерть и просветление».
14.45 Гербы России.
15.00 Новости.
15.10 «Маленький бродяга». Сериал.
15.35 Берега Набокова.
16.30 «Фортуната и Хасинта». Сериал.
17.30 Новости культуры.
17.40 «Ноу-хау».
17.55 Р.Шуман. «Лесные сцены».
18.20 «Цитаты из жизни».
19.00 Вечерняя сказка.
19.10 «Рекс». Мультсериал.
19.30 Новости культуры.
19.50 «Чего не хватает Донгузу?» Док.фильм.
20.45 После новостей.
21.05 «Осень». Худ.фильм.
22.30 «Соло и тутти».
23.00 Новости культуры.

**ТВ6**

05.00 День за днем.
05.45 Дорожный патруль.
06.00 День за днем.
08.00 Новости.
08.10 Фильм-катастрофа «Убийственный рейс».
09.50 Сериал «Западное крыло».
10.45 Телемагазин в Минске.
11.05 Скандалы недели.
12.00 День за днем.
13.30 «Петерс поп-шоу».
14.00 Новости.
14.15 Телемагазин в Минске.
14.30 Сериал «Богатые тоже плачут».
15.25 «Отдохнем».
15.35 Телемагазин в Минске.
15.50 Телемагазин в Минске.
17.00 Сериал «Дежурная аптека III».
17.40 Дорожный патруль.
17.55 Юмористическая программа «БИС».
18.30 «Петерс поп-шоу».
19.00 Новости дня.
19.30 «Академия собственных ошибок».
20.25 Сериал «Западное крыло».
21.25 Дорожный патруль.
21.45 Новости.
22.05 Сериал «Алло, Алло!».
22.40 «Аллё, народ!».
23.00 ДИСК-канал.
23.35 Фильм «Спорное решение».
01.15 Дорожный патруль.

**14 октября – Международный День матери.**
**«Рабочы» поздравляет всех своих читательниц и желает им света, добра и любви!**



# У ЧАКАННІ РЫЦАРАЎ

Не, не ўдалося ваярам мінскага клуба "Рыцары Вялікага княства" пры Згуртаванні беларусаў свету "Бацькаўшчына" пагарцаваць па вуліцах Мінска! А, між іншым, гэта была іх асабістая ініцыятыва – прайсціся 1 кастрычніка на конях у саставе ўдзельнікаў Маршу Свабоды-3 і тым самым выказаць свой пратэст супраць таго дрэннага, што адбываецца ў краіне. Была дасягнута (у рабочым парадку) дамова з уладамі – конныя рыцары павінны былі адкрыць Марш Свабоды: першым выязджаў рыцар Алёкса Матусевіч – "жывая "Пагоня", рыцары трымалі ў руках бел-чырвона-белыя сцягі, на аддаленні ад іх пачыналася шэсце. Але...

Расказвае гаспадыня клуба "Рыцары Вялікага княства" Арына ВЯЧОРКА:

*— Напярэдадні Маршу мы вельмі хваляваліся. Знайсці коней было цяжка, хоць конныя клубы у сталіцы ёсць, ды толькі ніхто з гаспадароў не хацеў рызыкаваць. Нарэшце адзін клуб згадзіўся, адпусціў трох прыгажуню, і яны прыскакалі на Марш. Двое коней былі прыватнай уласнасцю аднаго з рыцараў – іх прывезла коневозка. Рыцары ўзрадаваліся: перамога! Зараз іх мара ажыццявіцца. Ды радаваліся рана: міліцыя зрабіла ўсё, каб "жывая "Пагоня" не выйшла на праспект Скарыны. Нам гаварылі: "Коні патопчуць людзей. Калі ж вы не паслухаецеся нас, – мы арыштуем усю вашу жывёлу!" Марш рушыў да пляца Бангалор. Я кінулася да арганізатараў, яны звярнуліся да падпалкоўніка Саланца, які адказваў за бяспеку акцыі (з боку ўладаў). Ён схітрыў: паабяцаў, што конных рыцараў пусціць у парк Дружбы Народаў, дзе адбываўся мітынг, але сваім міліцыянтам каманды такой не даў.*

Да слоў гаспадыні Арыны можна дадаць адно: мы ў час мітынгу ў парку Дружбы народаў чакалі сваіх рыцараў. А яны... Яны тройчы спрабавалі праравацца да нас, але нічога не атрымалася – міліцыя сцерагла кожны іх рух...

Мала яшчэ сярод нашых мужчын сапраўдных рыцараў, самаадданых, высакародных людзей. Было б больш – дык, магчыма, і Маршы б не спатрэбіліся б...

**Уля ЖНІЎНЕВА.**
**Фота Юрыя ДЗЯДЗІНКІНА.**

## БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА РАДЫЁ СВАБОДА

| ЧАС | kHz | ХВАЛІ |
|---|---|---|
| 18.00 – 19.30 | 7295 | 41 |
| | 9610 | 31 |
| | 11725 | 25 |
| | 15655 | 19 |
| 22.00 – 23.30 | 6105 | 49 |
| | 9535,9750 | 31 |
| | 11865 | 25 |
| 06.00 – 07.00 | 6065 | 49 |
| | 7295 | 41 |
| | 9635, 9750 | 31 |

*Сярэднія хвалі – 576 і 612 кгц*

# КОСТЬ В ГОРЛЕ

**Дважды в день мимо Анастасии Герасимовны Авлосевич проезжает Лукашенко: из своего шикарного имения Дрозды на работу и с работы - домой. У Анастасии Герасимовны имения нет. Квартиры тоже. И даже угла. Она ютится от дождя и ветра в будке, сооруженной из картонных коробок.**

В войну у Насти погибла вся семья. В конце 50-х Настя приехала в Минск, пошла работать на фабрику бытового обслуживания. Почти сорок лет чистила чужую одежду, трудилась на складе готовой продукции, замуж не вышла, детей не родила. Жила на улице Димитрова, что пролегала за кинотеатром "Москва" (сейчас ее не существует). У Анастасии Герасимовны до сих пор в паспорте стоит штамп о прописке: "Улица Димитрова, д. 15а". Улицу начали сносить еще в начале 80-х. Жильцам сносимых домов давали другое жилье. Немолодую бессемейную работницу без образования, без знакомств и связей несколько раз пытались выпихнуть к черту на рога – то в начавший только-только застраиваться Северный поселок, то в Кунцевщину, которая тогда была еще "медвежьим углом". Анастасия Герасимовна взбунтовалась: почему жильцам с нашей улицы так несправедливо дают жилье? Одним – здесь, рядом с Димитрова, в центре, а мне – в Кунцевщине? Не поеду! Она дорабатывала на фабрике последние годы перед пенсией, сорваться с места не могла. Первая смена начиналась в 7.30 утра, вторая заканчивалась в 3 часа ночи. Как добираться на фабрику и с фабрики из "медвежьих углов"?

Непокорную женщину судом выселили из дома, имущество куда-то свезли. Анастасия Герасимовна хотела наложить на себя руки. Соседи подобрали ее, приютили. Фабрика поддержала свою работницу: начальник цеха, мастер помогли заселиться в аварийный дом все по той же улице Димитрова. Жилье временное, ужасное – ни электричества, ни прочих удобств, крыша течет, ребятки-паршивцы зажженные фитили в окна бросают. "Ладно, поживите пока здесь, – сказали в Центральном райисполкоме. – Подберем вам квартирку". И намекнули, что квартира, скорее всего, будет в строящемся рядом 9-этажном доме.

Анастасия Герасимовна



воспряла духом. Вместе со своим другом Сашей, таким же горемыкой, горячо откликнулась на предложение администрации метрополитена и районных властей – убрать территорию, прилегающую к строящейся станции метро "Немига". Анастасия Герасимовна – человек непьющий, крайне трудолюбивый, аккуратный. Собрала она с Сашей гору металлолома, тонн 200–250, не меньше. Надеялась: или квартиру получу, или на вырученные от сдачи металлолома деньги домик себе построю. Даже досок натаскала и кирпичей от разрушенных на Димитрова домов.

Надежды погибали одна за другой. 9-этажный дом заселили без Авлосевич. Металлолом увезли на нескольких грузовиках, денег не дали. Пропал кирпич. Друг Саша умер. Аварийный дом снесли. На фамилию Авлосевич выписали ордер на однокомнатную квартиру в старой "хрущевке" на бульваре Шевченко, туда же, вроде бы, отвезли ее вещи.

Обиженная до предела, обозлившаяся, никому не верящая, она не поехала на бульвар Шевченко, осталась на развалинах своего последнего жилища.

С 89-го года и по сей день эта очень наивная и очень упрямая женщина живет на несуществующей улице Димитрова.

О ней нам сообщили в редакцию в сентябре (и тогда же был сделан этот снимок). Позвонила и попросила заняться судьбой Анастасии Герасимовны наш читатель -- посторонняя женщина, которая наблюдала душераздирающую сцену: спецслужба по отлову бездомных животных отбирала у Анастасии Герасимовны ее единственную радость, фактически ее семью – трех кошек и двух собак – Малыша и Каштана. Анастасия Герасимовна защищала их, дело происходило на детской площадке, под окнами 9-этажки...

Очень многим жильцам этого дома и администрации района Анастасия Герасимовна – "кость в горле". "Як скула ў баку", – так выразилась она сама, прекрасно понимая свое положение отверженной.

В советские времена была такая пьеса, по которой потом сняли фильм: женщина, несправедливо обиженная, села на пенек и сказала: с места не сойду, умру, если не будет восстановлена справедливость. Анастасия Герасимовна заняла ту же позицию. В пьесе все заканчивалось хорошо: женщина стала героиней событий, вокруг нее закрутились начальники разных рангов... В жизни так бывает редко или вообще не бывает. Протест одиночки, тем более юридически слабо мотивированный, как правило, ничего не дает.

29 сентября к месту обитания Анастасии Герасимовны подъехало несколько машин, в том числе и милицейская. Четверо милиционеров с трудом втолкнули неслабую женщину в свой "воронок" (после такого обращения у нее распухли руки, ноги, тело было в синяках), отвезли в отделение, продержали шесть часов и отпустили. Вернулась Анастасия Герасимовна к своей картонной будке – а ее и нет. Как нет дров и досок, которые она насобирала – забрало домоуправление. Нет вещей, собранных в узлы, чемоданы и мешки, – растаскали налетевшие стервятниками бомжи. Нет и собаки Малыша – увезли-таки его на "живодерню". (А свалка, находившаяся рядом, осталась. Почему же ее не убрали?)

3 октября – опять милицейский "воронок" и опять отсидка в отделении. "Они что-то готовят, – говорит Анастасия Герасимовна. – Я чувствую".

(К слову сказать, Авлосевич уже много лет принципиально не получает заработанную нелегким трудом пенсию, т.к. все, купленное на эту пенсию, власти у нее отбирают – имущества пропало много: мебель, посуда, одежда... Живет Авлосевич тем, что собирает металлолом, картон и стеклопосуду.)

Конечно, к истории этой женщины можно отнестись по-разному. Можно сказать: сама виновата, почему не живет в том доме, куда ее в свое время выселили! А можно сказать так: у человека, которого жизнь обделила главной защитой – семьей, обострено чувство справедливости, чувство собственного достоинства. Разве приемщица с фабрики бытового обслуживания не заслуживает такого же уважения, как министр, банкир или любой другой трудящийся?

...Мне почему-то кажется, что Анастасии Герасимовне было бы достаточно теплого участливого слова, сказанного властями Центрального района.

Такая вот женщина...

**Светлана ШИДЛОВСКАЯ.**
**Фото автора.**

## ПРОГРАММА ТВ

## СРЕДА, 18 ОКТЯБРЯ

**БТ**
8.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.25 Новости.
8.15 «Сегодня с вами...» Заведующий кафедрой искусства эстрады Белорусского университета культуры Владимир Угольник.
8.40 Потребительская корзина. Социально-экономическая программа.
9.15 Детский экран. «Принц и нищий». Худ.фильм («Ленфильм»).
10.35 Компьютерный полигон.
11.10, 19.50 «Все мои дети». Телесериал.
11.55 «Несвижские отражения». Док. фильм(ТО «Телефильм»).
12.15 АРТ-клуб. Спектакли «ART» режиссера Николая Пинигина.
13.15 Дневной сеанс. «Соседи». Худ.фильм (ТО «Телефильм»).
14.25 Ток-шоу «Карамболь» с участием белорусских олимпийцев.
15.15 Мультфильмы.
15.45 Видимо-невидимо.
17.15 «Макаенка,9». Информационно-аналитическая программа по письмам зрителей.
17.45 Документальный экран. «Парус надежды» («Белвидеоцентр»).
18.15 Молодежный сериал «Сити».
19.20 «Личности XX столетия». Док.сериал «Сокровенные люди» (Россия). Заключительная серия.
19.35 Лотерея «Толока».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Событие.
21.50 «К расследованию приступить». Худ.фильм. 3-я серия.
22.55 Королевская охота.

**ОРТ**
08.00 Новости.
08.20 «Вавилонская башня». Сериал.
09.20 Сериал «Убойная сила: Умирать подано».
10.25 «Прогулки с динозаврами».
11.00 Новости.
13.30 Программа «Вместе».
14.00 Новости.
14.20 Мультсериал «Охотники за привидениями».
14.45 Зов джунглей.
15.15 ...До шестнадцати и старше.
15.55 «Вавилонская башня». Сериал.
17.00 Новости.
17.25 Сериал «Дикие звезды Голливуда».
17.55 Погода.
18.00 Человек и закон.
18.40 Мелодрама «Остановка по требованию».
19.50 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 Приключенческий фильм «Пистолет в сумочке Бетти Лу».
22.45 Шахматные короли: Александр Алехин и Макс Эйве.
23.30 Новости.

**РТР**
08.00 Вести.
08.15 Черным по белому.
08.20 Дежурная часть.
08.35 «Пес Динки». Мультсериал.
09.00 «Мануэла». Сериал.
10.00 Вести.
10.30 «Санта-Барбара». Сериал.
16.00 Вести.
16.30 Мелодрама «Не могу сказать люблю». 1-я серия.
18.00 «История любви». Сериал.
19.00 Вести.
19.30 Подробности.
19.50 Комедия «Певец на свадьбе».
22.00 Вести.
22.30 После «Вестей».
22.40 Дежурная часть.
22.50 «И дольше века...». Виллем Олтманс.
23.35 Детектив «Миссия: Монте-Карло».
01.20 Прогноз погоды.

**НТВ**
15.00 Сегодня.
15.30 Сериал «Элен и ребята».
16.35 Впрок.
16.45 Сериал «Полицейская академия».
17.40 Криминал.
18.00 Сегодня.
18.30 Герой дня.
18.55 Сериал «Улицы разбитых фонарей-II».
20.05 Совершенно секретно.
21.00 Сегодня.
21.35 Футбол. Лига чемпионов. «Милан» (Италия) - «Барселона» (Испания).
23.50 Сегодня в полночь.
00.20 «Антропология».

**КУЛЬТУРА**
09.10 «Портрет жены художника». Худ.фильм.
10.30 «Фортуната и Хасинта». Сериал.
11.30 Новости культуры.
11.40 «Друг мой, Колька!» Худ.фильм.
13.00 Вечер поэзии в музее А.С.Пушкина.
13.30 Новости культуры.
13.45 «Ну, погоди!».
14.15 Произведения К.Вебера, И.Брамса, Ф.Листа.
14.45 Гербы России.
15.00 Новости.
15.10 «Маленький бродяга». Сериал.
15.35 «Я к Вам лечу воспоминаньем...» Мультфильм.
16.10 Берега Набокова. «Встреча».
16.30 «Фортуната и Хасинта». Сериал.
17.30 Новости культуры.
17.55 Премьера оперы П.И.Чайковского «Евгений Онегин».
21.30. После новостей.
21.50 «Портрет жены художника». Худ.фильм.
23.10 Новости культуры.

**ТВ6**
14.00 Новости.
14.15 Телемагазин в Минске.
14.30 Сериал «Богатые тоже плачут».
15.25 «Отдохнем».
15.35 Телемагазин в Минске.
15.50 Телемагазин в Минске.
17.00 Сериал «Дежурная аптека III».
17.40 Дорожный патруль.
17.55 «Наши любимые животные».
18.30 «Петерс поп-шоу».
19.00 Новости дня.
19.30 Ток-шоу «Я сама».
20.25 Сериал «Западное крыло».
21.25 Дорожный патруль.
21.45 Новости.
22.05 Сериал «Алло, Алло!».
22.40 «Аллё, народ!».
23.00 ДИСК-канал.
23.35 Комедия «Красотка и сценарист».
01.05 Дорожный патруль.

